**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.31, 19.43, 13.12;
Віцебск — 6.19, 19.34, 13.15;
Магілёў — 6.20, 19.32, 13.12;
Гомель — 6.21, 19.25, 13.04;
Гродна — 6.48, 20.55, 13.07;
Брэст — 6.49, 19.56, 13.07.
**МЕСЯЦ:**
Першая квадра
4 верасня.
**ІМЯНІНЫ:**
Пімена, Анфісы, Савы.



# ЗВЯЗДА

9 ВЕРАСНЯ 1992 г.
серада, № 181 (21959)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ДОБРАЯ РАБОТА—ДОБРАЯ ЗАРПЛАТА

**ЖЛОБІН. Адміністрацыя Беларускага металургічнага завода прыняла рашэнне павялічыць аклады, аплату за начныя і вячэрнія змены ў 2 разы, па здзельных расцэнках—у 1,9 раза. Такім чынам, сярэдняя зарплата па заводзе зараз складае 11—12 тысяч рублёў, што ў 25 разоў больш, чым у мінулым годзе.**

### Папаўненне ў дыпламатычным корпусе

**Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМА ў Міністэрстве замежных спраў рэспублікі, заўтра, 9 верасня, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Дэвід Х. Суорц мае намер уручыць вярыцельныя граматы Старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.**

**Амерыканскаму паслу пяцьдзесят гадоў. Ён знаёмы з Беларуссю, таму што з вясны гэтага года быў тут часовым паверaным у справах ЗША. Дарэчы, амерыканскія дыпламаты, узначальваемыя Дэвідам Х. Суорцам, сталі першымі замежнымі прадстаўнікамі, акрэдытаванымі ў Мінску.**

**БЕЛІНФАРМ.**

### ПЕРШАКЛАСНЫ ПОЛЬСКІ...

**БРЭСТ. Клас з выкладаннем на польскай мове адкрыўся ў адной са школ горада. 19 першакласнікаў будуць займацца па праграме пачатковай школы Рэспублікі Польшча. Міністэрства адукацыі суседняй краіны паабяцала забяспечыць юных брастаўчан падручнікамі і прыслаць вопытнага настаўніка. Пакуль першакласнікі яшчэ не авалодалі польскай мовай, некаторыя прадметы выкладаюцца на беларускай.**

**Таццяна ГУСЕВА. (РІД).**




### Амерыканская вада—самая чыстая вада ў свеце. І больш за ўсё неабходная нам

Гуманітарная дапамога, як мы пераконваемся ўсё часцей і часцей, можа быць рознай. Можа быць і такой, як на гэтым здымку. Паўтара літра абсалютна чыстай дыстыляванай стопрацэнтна амерыканскай вады знаходзілася ў гэтай бутэльцы. Амерыканцы, напэўна, думаюць, што мы паміраем не толькі ад голаду, але і ад смагі. Таму і трымайце, былыя савецкія, сваю ваду! Крыўдна не столькі за амерыканцаў, якія пастаўляюць нам такі «дар», колькі за нас...

## І СЯРОД БАНКАЎ БЫВАЮЦЬ «НЕПАТРЫЁТЫ»...

На чарговым пасяджэнні планава-бюджэтнай камісіі ВС РБ павінен быў разглядацца бюджэт краіны на 1993 год, аднак на парадак дня вынеслі ўсё ж іншае пытанне: аб выніках праверкі работы камерцыйных банкаў па выкананню законаў і нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь аб банкаўскай дзейнасці.

Нацыянальная банкаўская сістэма ў Беларусі яшчэ маладая. Камерцыйныя банкі — першынцы рыначнай эканомікі — перажываюць пакуль нялёгкі час станаўлення, пошукаў, і на гэтым шляху, вядома, не пазбегнуць памылак. У дакладзе, зробленым спецыялістамі Нацыянальнага банка па выніках праверкі, адзначана, што крэдытныя аперацыі камерцыйных банкаў выраслі ў тры разы, але практычна не заўважана нарошчвання імі ўласнага капіталу, што сведчыць аб адсутнасці стабілізацыйных фактараў у рабоце. Большасць з гэтых банкаў мае капітал усяго каля 60 млн. рублёў — гэта вельмі мала.

Дрэнна працуюць камерцыйныя банкі і з каштоўнымі паперамі — «Прамбудбанк» прадаў іх усяго на 860 тысяч рублёў. Гэта што датычыць унутранага жыцця банкаў.

Цяпер — аб адпаведнасці іх дзейнасці заканадаўству. Законам прадугледжана, што ўсе ўклады насельніцтва ў камерцыйных банках павінны быць застрахаваны, аднак у «Мінскбізнесбанку», «Прыорбанку» пра гэта чамусьці «забыліся». Ёсць у нас, аказваецца, і проста «непатрыятычныя» банкі (менавіта такое слова прагучала ў дакладзе): свае крэдытныя аперацыі многія ўхітрыліся аформіць за межамі рэспублікі, што паспрыяла сплыванню сродкаў з краіны. І немалых — 400 млн. рублёў. Усё з-за недасканаласці нашага заканадаўства, — растлумачыў старшыня Асацыяцыі камерцыйных банкаў Яўген Купчын. Адным з пунктаў Закона РБ «Аб банкаўскай дзейнасці» праводзіць аперацыі за межамі рэспублікі нам дазволена, а ў той жа час пастановай Саўміна на тэрыторыі Беларусі гэта забаронена— каб не перапампоўваць грашовую масу з-за межаў рэспублікі. Але як бы там ні было, а 400 мільёнаў пайшлі на развіццё камерцыйнай дзейнасці ў Расіі, на Украіне, і зараз вярнуць гэтую суму ўжо вельмі праблематычна.

Узрастае сума пратэрмінаваных даўгоў камерцыйных банкаў — на сённяшні дзень яна складае звыш 600 млн. рублёў, і нічога не робіцца для стварэння прыбытку, дастатковага для пагашэння даўгоў.

Чым вытлумачыць усё гэта — нізкім узроўнем прафесіяналізму кіраўнікоў многіх банкаў ці простым жаданнем асабістага ўзбагачэння, нягледзячы ні на што? А ўся справа ў тым, лічыць старшыня Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч, што сярод заснавальнікаў камерцыйных банкаў многа дзяржаўных структур, вось і жывуць тыя, не надта турбуючыся аб заўтрашнім дні, спадзеючыся на «ўліванне» дзяржаўных сродкаў у якасці крэдыту. Бестурботнасць, як бачым, часта суседнічае з бездапаможнасцю. А таму, прагучала прапанова, рэспубліцы вельмі патрэбен спецыяльны закон аб сістэме банкаўскага нагляду, каб гэта рабілася не наскокам, час ад часу, а пастаянна, і кіраўнікі камерцыйных банкаўскіх структур добра ведалі, за якія памылкі ў іх дзейнасці ім давядзецца расплачвацца грашыма, а за якія — нават ліквідацыяй банка.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ, кар. «Звязды».**

### ЖАНЧЫНЫ ЗАЎСЁДЫ «КРАЙНІЯ»

ЖОДЗІНА. У мясцовы гарадскі цэнтр занятасці з пачатку года звярнулася 418 чалавек, з якіх 116 чалавек было працаўладкавана. Паводле даных, атрыманых з прадпрыемстваў горада, у мінулым годзе на іх было 763 свабодныя рабочыя месцы і 20 месцаў для ІТР і служачых, а ў гэтым годзе — адпаведна 252 і 40. На ўліку ў цэнтры занятасці зараз стаіць 340 чалавек, з якіх 180 жанчын, а вакансій для жанчын фактычна няма. Усім ім прапаноўвалася перавучыцца, аднак такое жаданне выказалі толькі 2 чалавекі. У Жодзіна афіцыяльна зарэгістравана толькі 49 беспрацоўных, з якіх 33 атрымліваюць дапамогу. І сярод іх пераважную большасць (30 чалавек) складаюць жанчыны.

### Пятахціква—гэта клопат і аб «чарнобыльскіх» дзецях

**МАГІЛЁЎ. Горад на Дняпры наведала дэлегацыя прафсаюзаў ізраільскага горада Пятахціква, якая падпісала з магілёўскім абласным саветам аб'яднання прафсаюзаў дагавор аб намерах. Галоўны пункт дагавора — абследаванне і лячэнне «чарнобыльскіх» дзяцей Магілёўшчыны ў Ізраілі. Акрамя таго, плануецца дапамога ізраільцян у вытворчасці на Беларусі медыкаментаў, медыцынскага абсталявання і інструментарыя.**

### Студэнтам «пагражае» партупея

Было аб'яўлена, што некаторыя з іх пасля заканчэння вучобы будуць служыць у арміі...

У прынцыпе супярэчнасці тут няма. Законам РБ «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» прадугледжваецца адтэрміноўка для студэнтаў дзённых аддзяленняў на час вучобы. Слухачы ваенных кафедраў ВНУ вызваляюцца ад службы ў арміі.

Нядаўна Міністэрства абароны і Міністэрства адукацыі Беларусі выдалі сумесны загад, па якому на ваенных кафедрах ВНУ спыняецца падрыхтоўка мотастралкоў і танкістаў. У асноўным гэта датычыць гуманітарных факультэтаў.

Як паведамілі ў Міністэрстве абароны, студэнты, якія пачалі вучобу на ваеннай кафедры, яе закончаць. Астатнія ж пасля заканчэння навучальнай установы будуць служыць у арміі на працягу 12 месяцаў.

**Мікалай ЛЯЎЧУК, РІД.**

## «НАША ІНТЭГРАЦЫЯ Ў СУСВЕТНУЮ ЭКАНОМІКУ НЕМАГЧЫМА БЕЗ СТВАРЭННЯ СВАБОДНЫХ ЭКАНАМІЧНЫХ ЗОН»

Восем пытанняў было на парадку дня чарговага пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі, якое адбылося ўчора. А адным з галоўных і першачарговых — абмеркаванне праекта закона аб свабодных эканамічных зонах на тэрыторыі рэспублікі. Гэта тэма даўно ўжо выклікала да сябе цікавасць. Яно і не дзіўна: як паказвае вопыт многіх краін, свабодная эканамічная зона стварае ўмовы для паскоранага развіцця вытворчых сіл, рыначных умоў гаспадарання, больш актыўнага інтэгравання ў сусветную эканоміку, інвестыцый замежнага капіталу.

Што ж прадугледжваецца для гэтага зрабіць? Найперш— увесці ў гэтай зоне льготнае падаткаабкладанне — вядома, не для ўсіх прадпрыемстваў, што існуюць у гэтым рэгіёне, а толькі для тых, чыя дзейнасць будзе спрыяць развіццю эканамічнага патэнцыялу зоны; прадугледжваецца таксама прадастаўленне крэдытаў; вызваленне тавараў ад пошліннага абкладання; спрошчаная сістэма рэгістрацыі малых і сумесных прадпрыемстваў, прадпрыемстваў са 100-працэнтнай доляй замежнага капіталу. А паўната ўлады ляжа на плечы Адміністрацыйнага савета, які і зоймецца вырашэннем усіх пытанняў.

Але як актыўна ў такіх умовах зможа ўмешвацца дзяржава ў ход вытворчых, гаспадарчых працэсаў, што будуць адбывацца ў СЭЗ? Міністра сувязі і інфарматыкі І. Грыцука цікавіла, напрыклад, хто будзе тут рэгламентаваць, як ён выказаўся, выхад газет, як будзе развівацца сувязь? На што міністру было адказана, што дыктаваць свае ўмовы ў гэтай зоне ён не зможа, інакш якая ж яна тады свабодная. Больш важкай была заўвага старшыні Нацыянальнага банка С. Багданкевіча, што грашовай адзінкай СЭЗ—рублём —у будучым можа быць сур'ёзна падарваны курс нацыянальнай валюты тут і на астатняй частцы тэрыторыі краіны. Пытанні ў сувязі з гэтым застаюцца, і яны даволі сур'ёзныя. Таму на працягу пэўнага часу праект будзе дапаўняцца заўвагамі і прапановамі.

Найбольш часу заняло абмеркаванне пытання аб сітуацыі з пажарамі. Прагучаў даклад штаба Грамадзянскай абароны. На сённяшні дзень на тэрыторыі краіны захоўваецца 218 ачагоў пажару (з іх 46 лясных, астатнія — тарфяныя) з агульнай плошчай 3.276 гектараў. Зараз можна сказаць, што сітуацыя кантралюецца, а таму можна зрабіць і некаторыя вывады. Слабая матэрыяльна - тэхнічная база, складанасці з фінансаваннем ды і звычайная безадказнасць кіраўнікоў (дырэктар аднаго з лясгасаў у Асіповіцкім раёне ў час, калі агонь знішчаў цэлы лясны масіў і набліжаўся да жылля, не знайшоў сабе іншага занятку, як ваяжыраваць па рэспектабельнай Галандыі) — прывялі да таго выніку, які мы маем. Канешне, пракуратура цяпер разбіраецца з некаторымі выпадкамі, узбуджаюцца крымінальныя справы, вінаватыя панясуць адказнасць. Але ж трэба думаць і аб заўтрашнім дні. Ужо гатова і Палажэнне аб рэжыме надзвычайнай сітуацыі, якое будзе прымяняцца ў экстрэмальных сітуацыях, звязаных не толькі з пажарамі.

Тут жа прагучала прапанова аб стварэнні ў Беларусі каля дзесятка спецыяльных батальёнаў (кожны колькасцю 220—240 чалавек), добра падрыхтаваных, аснашчаных, абучаных, якія былі б гатовы сустрэць і вытрымаць удар стыхіі. Магчыма, такія фарміраванні трэба стварыць у сістэме Міністэрства абароны, сказаў В. Кебіч, бо дзяржаўны бюджэт сёння не мае магчымасці іх утрымліваць. Але Старшыні Саўміна тут жа запярэчылі: вопыт замежных краін, у прыватнасці Германіі, сведчыць, што гэта павінна быць дзяржаўная служба, яна хутка акупіць сябе, займаючыся ў «мірны» час захаваннем радыяцыйных адходаў, рамонтам дарог, прафілактычнай работай. Акрамя пажараў, у нас здараюцца і іншыя стыхійныя бедствы: ураганы, напрыклад. У апошнюю нядзелю адзін з іх пранёсся па заходніх раёнах Беларусі: чалавечыя ахвяры, шматлікія разбурэнні: у калгасе «Перамога» Валожынскага раёна знішчана амаль цэлая вёска — страты 20 млн. рублёў. Зноў людзі аказаліся непадрыхтаванымі.

Прынята рашэнне: падрыхтаваць і прыняць вялікую пастанову Саўміна.

У другой палове дня Прэзідыум Савета Міністраў прыступіў да абмеркавання пытання аб эканамічнай сітуацыі ў краіне. Чытайце нашу справаздачу заўтра.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## З АПТЫМІЗМАМ— У БУДУЧЫНЮ

**НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА «ЗВЯЗДЫ» АДКАЗВАЕ ДЫРЭКТАР ЗЕЛЕНАБОРСКАГА ЗАВОДА ПА ПЕРАПРАЦОЎЦЫ ТОРФУ А. КАСЦЮКОЎ.**

**На фоне той сапраўды ўсяленскай трывогі і занепакоенасці, што ахапіла краіну, з асаблівым пачуццём аптымізму ўспрымаем тыя вытворчыя калектывы, дзе насуперак эканамічным цяжкасцям, пагрозе беспрацоўя, усяму гэтаму бязладдзю, што ўзрушваюць асновы грамадства, пануе здаровы дух творчасці і прагрэсу. Адным з такіх астраўкоў адноснай устойлівасці з'яўляецца Зеленаборскі завод па перапрацоўцы торфу. Прадпрыемства, якое яшчэ дзесятак гадоў назад было, што называецца, на мяжы краху, нечакана эканамічна акрэпла, пачало хуткімі тэмпамі развіваць свой вытворчы патэнцыял, паспяхова вырашаць сацыяльныя праблемы. Гэтыя пераўтварэнні ўсе тут звязваюць з прыходам у калектыў тады яшчэ зусім маладога кіраўніка А. Касцюкова. Нас перш за ўсё зацікавіла, што ляжыць у аснове поспеху калектыву?**

— Як гэта ні здаецца банальным, — зазначае Аляксандр Сяргеевіч, — але ўсе дасягненні ў асноўным звязаны з напружанай працай усяго калектыву. Колькі б мы не аддавалі анафеме нашу сістэму з яе жорсткай рэгламентацыяй і не захапляліся рынкам, нельга забываць, што ў аснове грандыёзных дасягненняў Японіі, Паўднёвай Карэі ляжыць прынцып эканамічнага планавання ў маштабах дзяржавы, доўгатэрміновых эканамічных прагнозаў. У той жа Паўднёвай Карэі паспяхова ажыццяўляюцца адна пяцігодка за другой, ад якіх мы адмахнуліся.

**Матэрыялы аб жыцці працаўнікоў Зеленаборскага завода па перапрацоўцы торфу чытайце на 2-й старонцы.**



**На здымках:**
**Дырэктар Аляксандр Сяргеевіч КАСЦЮКОЎ.**
**Прадукцыя, падрыхтаваная для адпраўкі на экспарт.**

### Блакітны флаг ААН у Мінску

На адным з дамоў па вуліцы Кірава ў цэнтры Мінска развяваецца вядомы ўсяму свету блакітны флаг Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. 8 верасня тут адбылося ўрачыстае адкрыццё аддзялення ААН, ля ўваходу ў якое чырвоную рытуальную стужку разрэзаў адміністратар Праграмы развіцця ААН Уільям Дрэйпер, які прыбыў з Нью-Йорка.

— Беларусь першай з краін Садружнасці мае ў сябе наша прадстаўніцтва, — сказаў высокі госць. — І першай атрымлівае тэхнічную дапамогу ААН (ПРААН). У гэтай сувязі вашай рэспубліцы выдзелена 1,3 мільёна долараў. Мы ставім сваёй мэтай падтрымку намаганняў Беларусі, накіраваных на вырашэнне праблем эканамічнага развіцця, пераход да рыначнай сістэмы гаспадарання, паскарэнне сацыяльнага прагрэсу, павышэнне ўзроўню жыцця яе грамадзян і, самае галоўнае, дапамогу ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

На ўрачыстай цырымоніі прысутнічалі міністры замежных спраў дзяржаў Садружнасці, якія прыбылі ў Мінск на чарговую сустрэчу ў рамках СНД.

### Статус Курапат дагэтуль не вызначаны

**Трэцяга ліпеня гэтага года «Звязда» паведамляла аб знішчэнні памятнага знака ў Курапатах.**

**Намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны А. Трусаў пераслаў у рэдакцыю адказ КДБ па выкладзеных у газеце фактах. Намеснік старшыні КДБ РБ Г. Лавіцкі паведаміў, што звестак, якія датычылі б кампетэнцыі КДБ, не атрымана.**

**Да таго ж урочышча Курапаты дасюль не мае юрыдычнага статуса як могільніка, помніка ці іншага аб'екта, на тэрыторыі якіх процiпраўная дзейнасць асоб падпадала б пад артыкулы 88, 89 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях і артыкулы 224, 225 Крымінальнага кодэкса РБ.**

**Не акрэслены граніцы пахаванняў ахвяр і ведамасная прыналежнасць Курапат, таму адпаведныя органы не маюць магчымасці арганізаваць пастаянную ахову таго месца, дзе знаходзіўся памятны знак.**

### РАДЫЁ ФАКТ

Прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі падтрымаў рашэнне выканкома Еўрапейскага саюза беспрацоўных аб правядзенні 6 кастрычніка Дня дзеяння па беспрацоўю. Праблема абароны ад беспрацоўя становіцца для нас рэальнасцю. Толькі з пачатку года колькасць занятых у народнай гаспадарцы зменшылася на 112 тысяч, па скарачэнню штатаў звольнена 41 тысяча чалавек. Паводле прагнозаў, да канца года без работы могуць застацца больш як 700 тысяч чалавек.

***

**Урад Літвы адобрыў мемарандум аб эканамічнай палітыцы краіны. Праграма разлічана на год і складзена ў адпаведнасці з рэкамендацыямі Міжнароднага валютнага фонду. Літва мяркуе, што ў выпадку зацвярджэння праграмы Міжнародным фондам, яна атрымае яшчэ ў гэтым фінансавым годзе крэдыты на суму 287 мільёнаў долараў.**

Эстонскія прафсаюзы выступілі супраць намеру ўрада павысіць пенсіённы ўзрост для мужчын і жанчын адпаведна да 65 і 60 гадоў. У накіраваным у адрас кабінета міністраў пратэсце змяшчаецца таксама патрабаванне падняць узровень мінімальнай заработнай платы да 300 эстонскіх крон у месяц. Па неафіцыяльнаму курсу 1 крона роўная сёння 12—14 рублям.

***

**726 рублёў за кілаграм «Арбіты» плацяць зараз баранавіцкія курцы. І гэта не памылка... У магазінах баранавіцкага дзяржкаапгандлю прадаюць цыгарэты на вагу. Па падліках курцоў, са ста грамаў выходзіць пяць пачак. А адна пачка абыходзіцца прыкладна ў 14 рублёў 50 капеек.**

***

Як паведамілі «Радыёфакту» ва Ўрадавай службе інфармацыі, у Мінску з 26 па 30 кастрычніка намечана правесці міжнародную нараду экспертаў па пытаннях арганізацыі доследнай экалагічнай сеткі, якая будзе вывучаць праблемы ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Плануецца, што ў яе састаў увойдуць і каля 20 замежных вучоных і спецыялістаў.

***

**У рэспубліцы створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы беларускіх спартсменаў да Алімпійскіх зімніх і летніх гульняў у 1994 і 1996 гадах. Узначаліў яго намеснік прэм'ер-міністра Станіслаў Брыль. У саставе камітэта таксама міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, старшыня Дзяржкамспорту Уладзімір Рыжанкоў, міністр аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Васіль Казакоў.**

### «ЗВЯЗДА» Ў КАН'ЮНКТУРЫ ЧАСУ

ГОМЕЛЬ. Не так даўно гомельскія абласное і гарадское агенцтвы «Саюздруку» дадаткова заказалі для продажу ў розніцу 400 экземпляраў «Звязды». Наш уласны карэспандэнт У. Пернікаў звярнуўся да кіраўнікоў гэтых арганізацый Мікалая Ганчара і Кацярыны Грабянчук з пытаннем: чым выклікана такое рашэнне?

— Не сакрэт, што зараз кожны сочыць за кан'юнктурай рынку, г. зн., за тым таварам, які карыстаецца попытам. Адным з такіх тавараў для нас з'яўляюцца перыядычныя выданні. Дык вось, многія нашы кіяскёры пачалі дакладваць, што ў апошні час людзі актыўна купляюць «Звязду», а яны не могуць задаволіць іх попыт. Адсюль просьба: павялічце колькасць экземпляраў газеты для кіёскаў. І мы пайшлі насустрач.

— На ваш погляд, што прыцягнула ўвагу чытачоў?

— Многае. І ў першую чаргу тое, што «Звязда» трымае руку на пульсе жыцця. Яна апавядае аб усім, на нашу думку, аб'ектыўным, спакойным тонам. «Звязда» шукае шляхі да згоды, даючы слова прадстаўнікам усіх рухаў і партый, грамадскіх арганізацый. Думаецца, гэтым яна садзейнічае пераадоленню крызісу, які ахапіў наша грамадства, дапамагае ў пошуках выхаду з яго. Людзям падабаюцца таксама публікацыі карысных парад.

Немалаважна і тое, што апошнім часам на старонках газеты з'явілася некалькі цікавых матэрыялаў з жыцця вобласці. Спадзяёмся, што з цягам часу колькасць прыхільнікаў газеты будзе толькі расці.

## Зварот беларускіх спартсменаў-алімпійцаў

**Шаноўныя Станіслаў Станіслававіч і Вячаслаў Францавіч!**

З пачуццём здзейсненага доўгу перад Рэспублікай Беларусь дакладваем, што беларуская каманда змагла паспяхова выступіць на XXV летніх Алімпійскіх гульнях. Гэта стала магчыма дзякуючы добрым спартыўным традыцыям у нашай рэспубліцы, паўсядзённаму клопату і падтрымцы дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, стварэнню ўмоў для вучэбна-трэніровачнай работы і падрыхтоўкі алімпійскага рэзерву.

У зборную каманду СНД было ўключана 60 мацнейшых спартсменаў рэспублікі па 18 відах спорту. У складаных кліматычных умовах і найвастрэйшай канкурэнтнай барацьбе імі было заваявана 17 залатых, 4 сярэбраныя і 6 бронзавых медалёў. Па колькасці атрыманых узнагарод наша рэспубліка ўвайшла ў дзесятку мацнейшых спартыўных дзяржаў свету.

У той жа час мы добра ведаем, што сённяшнія поспехі алімпійцаў — гэта ўжо гісторыя. Праз чатыры гады на чарговай XXVI Алімпіядзе ў Атланце (ЗША) спартсменам трэба будзе адстойваць і памнажаць спартыўную славу роднай Беларусі, выступаючы самастойнай камандай.

Выкананне гэтай надзвычай складанай задачы патрабуе карэннай перабудовы вучэбна-трэніровачнага працэсу, узмацнення работы трэнерскіх кадраў дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ і школ вышэйшага спартыўнага майстэрства, мадэрнізацыі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння збудаванняў, вырабу новага абсталявання і інвентару, спецыяльнай і масавай спартыўнай формы і, вядома, гарантаванага фінансавання праграмы развіцця фізічнай культуры і спорту.

На жаль, у сувязі з пераходам да рынку, ростам цэн, невырашэннем пытання льготнага падаткаабкладання прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўкладваюць сродкі ў развіццё фізкультуры і спорту, увядзеннем шэрагу новых падаткаў, фізкультурна-спартыўная галіна пастаўлена на грань катастрофы. Унікальная сістэма фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай работы, якая склалася за гады выкавання «Комплекснай тэрытарыяльна-галіновай

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Ці будзе цёпла ў кватэрах нашых прыбалтыйскіх суседзяў

Пытанне няпростае як для ўрадаў, так і для насельніцтва Літвы і Латвіі. Паводле паведамленняў расійскага друку, напярэдадні асенне-зімовага сезона рэспублікі Балтыі ўдакладнялі з расійскімі партнёрамі цэны на энерганосьбіты. І вось 10 ліпеня расійскі бок паведаміў, што ў далейшым газ будзе пастаўляцца ў Латвію па новай цане — 90 долараў ЗША за тысячу кубаметраў газу з перадаплатай (сусветная цана — 110 долараў, так што мяжа павышэння яшчэ не дасягнута). Для Літвы расійскія партнёры паднялі цану на нафту да 19 тыс. рублёў за тону і збіраюцца давесці яе да ўзроўню сусветных цэн (30 тысяч рублёў за тону). Латвія для аплаты паставак вышуквае крэдыт у памеры 260 млн. долараў (цікава, як яна будзе яго аддаваць?), а Літва мае намер адмяніць датацыі насельніцтву на ацяпленне да сярэдзіны 1993 года, так што радавы грамадзянін гэтай рэспублікі павінен будзе плаціць за камунальныя паслугі ў 10—12 разоў больш, чым раней, і гэта яшчэ не мяжа шалёнага росту цэн. А хто будзе купляць прыбалтыйскія тавары па сусветных цэнах? Пытанні, пытанні...

А што ў нас будзе зімой? Гэтая праблема — прадмет пастаяннага галаўнога болю беларускага ўрада. Але сёння ўжо можна сказаць, што дзякуючы падпісаным прэм'ерам Кебічам пагадненням з расійскім урадам цэны на энерганосьбіты для Беларусі будуць такімі ж, як і для ўнутраных спажыўцоў у самой Расіі (а гэта ў 5—10 разоў ніжэй за сусветныя цэны). Гарантыю ад цэнавага бязмежжа даюць нам пагадненні аб парадку цэнаўтварэння на прадукцыю міжрэспубліканскага абмену, а таксама аб санкцыях за зрыў узаемапаставак. Акрамя таго, Расія ўзяла на сябе абслугоўванне і аплату знешняга доўгу рэспублікі. Дарэчы, калі б наш урад не дабіўся падпісання такога пагаднення, то ўжо к канцу года і на ўсю далейшую перспектыву валютная казна рэспублікі была б пустой.

Так што на пытанне, ці будзе цёпла ў нашых кватэрах зімой, можна адказаць сцвярджальна.

**Аляксандр ПШАНІЧНЫ.**

# РОЗГАЛАС

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### ЭКАЛОГІЯ

**На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь знаходзіцца 76 ахоўваемых прыродных аб'ектаў, якія займаюць 3,7 працэнта тэрыторыі рэспублікі. У іх ліку—2 запаведнікі, 1 нацыянальны парк, 73 заказнікі рэспубліканскага значэння. Пад ахову ўзята 186 помнікаў прыроды, 299 месц вырастання 68 відаў раслін і 1.079 папуляцый 47 відаў жывёл, якія занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Аднак замест запланаваных рэспубліканскай комплекснай праграмай «Экалогія» трынаццаці заказнікаў пакуль створана толькі пяць, а з-за адсутнасці фінансавых сродкаў не вядзецца падрыхтоўка да стварэння нацыянальнага парка «Белая Русь» і Свіслацка-Бярэзінскага запаведніка.**

## Ці чакаць нам сваіх Уолтаў Дыснеяў?

У гэтым годзе ў Беларускай акадэміі мастацтваў пачалося навучанне па новых спецыяльнасцях: рэжысёр мультыплікацыйнага фільма, аператар кіно, мастак кіно, тэлеаператар.

Тэлеаператары будуць займацца на базе тэлебачання. Астатнія аддзяленні, гэтак жа як і ўжо існуючыя майстэрні ігравога і дакументальнага кіно, размясціліся на кінастудыі «Беларусьфільм».

Гэта толькі пачатак. І, магчыма, у недалёкім будучым беларусы будуць мець свой кінафакультэт, а яго выпускнікі стануць сапраўднымі майстрамі кіно.

**Ганна ЛАГУН.**

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### А БЕЗ ВАДЫ НІ ТУДЫ І НІ СЮДЫ

31 кастрычніка ў Санкт-Пецярбургу плануецца ўвесці новыя тарыфы на ваду. На мясцовым заводзе штурманскіх прыбораў ужо наладжваецца вытворчасць водных лічыльнікаў, якія будуць устаноўлены ў дамах вясной 1993 года.

### КАРАЛЕВА... З ПАЛКОЎНІЦКІМІ ПАГОНАМІ

Нямногія ведаюць, што візіту ў Латвію дацкай каралевы папярэднічала вялікая падрыхтоўка. Цэлы месяц брыгада работнікаў займалася ў Рундальскім палацы зборкай мэблі, лаючы прадукцыю Валмієрскага мэблевага камбіната. За тыдзень перад прыездам аўгусцейшай асобы ў Турайдэ сіламі службы бяспекі Латвіі была праведзена генеральная рэпетыцыя сустрэчы. У ролі каралевы выступіў сам шэф латвійскай бяспекі палкоўнік Ю. Вецтыранс.

### МЕТРО ЯК СРОДАК АД БЕСПРАЦОЎЯ

У Чэлябінску пачалі будаваць метро. У перспектыве метрапалітэн дапаможа вырашыць транспартныя праблемы, а пакуль што — праблемы беспрацоўя, бо яго будаўніцтва дасць гораду амаль 15 тысяч рабочых месц.

### МІЛЬЁН... АД СТУДЭНТА

Адзін з саратаўскіх студэнтаў вырашыў пакінуць мільён сваім нашчадкам. Ашчадную кніжку, на якую пакладзена ўсяго 5 рублёў пад 9 працэнтаў гадавых, ён адрасаваў у XXII стагоддзе. Паводле яго падлікаў, памер укладу за гэты час павінен перавысіць мільён рублёў.

### КРАДЗЕЖ МЕСЯЦА

Крадзяжом месяца прызнана ў Латвійскай Рэспубліцы знікненне латуннай дошкі з шыльдай Вярхоўнага Савета Латвіі. Па гэтаму факту вядзецца следства, а зарплата вартаўнікам паніжана да мінімуму. Кампетэнтныя органы лічаць, што гэта справа рук заходніх калекцыянераў, якія збіраюць латвійскія рэліквіі.

## А колькі дзяцей магло б нарадзіцца?

**ДРАГІЧЫН. З пачатку года ў мясцовым радзільным доме пачалі сваё жыццё больш як 500 нованароджаных, аднак у той жа час кожная трэцяя цяжарнасць у жанчын раёна была перарвана фізічным шляхам, а агульная колькасць абортаў у 1992 годзе дасягнула двух соцень.**

Малюнак А. ПАПОВА.

Адам Акуліч — па адукацыі акцёр драматычнага тэатра. У свой час скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, працаваў у Тэатры юнага гледача і ў акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. У канцы 70-х эмігрыраваў у ЗША, дзе воляю выпадку стаў журналістам. Працуе ў беларускай рэдакцыі «Свабоды». Сёлета ў жніўні Адам Акуліч упершыню пасля ад'езду пабываў на Беларусі.

## З НЬЮ-ЙОРКА ЎСЁ БАЧНА ТРОШКУ ІНАКШ...

**Карэспандэнт радыёстанцыі «Свабода», наш зямляк Адам АКУЛІЧ, дае інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» Таццяне АНТОНАВАЙ**

**— Спадар Адам, колькі дакладна гадоў вы не былі на Бацькаўшчыне?**

— Чатырнаццаць.

**— Год назад, калі мы гутарылі з вамі ў Нью-Йорку, вы казалі мне, у якім стане пакідалі Беларусь: «Я страціў веру ў справядлівасць, у будучыню, бо сутыкнуўся з адкрытай карупцыяй і мафіяй. Быў перакананы, што перспектывы ніякай наперадзе няма». Якія вашыя ўражанні цяпер, пасля доўгай адсутнасці?**

— Вельмі складаныя ўражанні. Калі вымяраць дыяпазонам ад добрага да дрэннага, дык я думаю, што стрэлка будзе схіляцца да адзнакі «дрэннае». Я спадзяваўся і ўяўляў, што справы тут значна лепшыя.

**— А ці нельга больш канкрэтна?**

— Паспрабую. Я думаю, гэта вельмі нестабільная эканамічная сітуацыя плюс яшчэ палітычная няпэўнасць. Можа, жыхару Мінска ўсё бачыцца інакш. Але маё ўражанне абумоўлена якраз гэтымі паказчыкамі нестабільнасці і няпэўнасці.

**— Гэтае вашае ўражанне грунтуецца толькі на асабістых назіраннях і інтуіцыі, альбо яно падмацавана нейкай інфармацыяй?**

— Я аб'ездзіў шмат гарадоў Палесся і Брэстчыны. Мяне цікавіла, які радыяцыйны фон у гэтай зоне, як уздзейнічае радыяцыя на здароўе людзей. Зразумела, я сустракаўся з кіраўнікамі гарадскіх і раённых уладаў, старшынямі калгасаў. Былі таксама сустрэчы з дэпутатамі, членамі ўрада, прадстаўнікамі розных партый. Менавіта атрыманая ў выніку гэтых сустрэч інфармацыя, яе аналіз далі мне магчымасць зразумець, наколькі складаныя працэсы адбываюцца ў грамадстве. Я, па праўдзе, так і не змог уявіць агульную карціну. Ацэньваючы сітуацыю ў Беларусі з Нью-Йорка, я меў больш выразнае ўяўленне. Цяпер я яго не маю. Яно і больш жывое, і адначасова больш размытае, няпэўнае.

**— 70-я, пачатак 80-х гадоў трактуюцца цяпер як перыяд найбольшага застою, ідэалагічнага прэсінгу. Канешне, тады было цяжка праявіць сябе неардынарнаму чалавеку, а праславіцца «ерэтыкам» — даволі лёгка. Як, на ваш погляд, перамены ў грамадскім ладзе паўплывалі на жыццё людзей?**

— Мне даволі цяжка рабіць нейкія абагульненні. Думаю, што гадоў 15—20 назад, а можа, я і памыляюся, было больш веры, людзі не былі ў такім абстрактным становішчы, як цяпер. Поўная няпэўнасць, шок, разгубленасць перад цяжкасцямі эканамічнага становішча. Мне здаецца, што мы тады, у 70-я, жылі больш спакойна і паўнакроўна на нешта спадзяваліся, строілі планы. Творчая моладзь наведвала розныя гурткі, дзе вяліся дыскусіі, абмяркоўваліся спектаклі, кнігі. Цяпер такога я не заўважыў. Адбылася парадаксальная духоўная дэградацыя грамадства.

**— Ці верыце вы ў Бога?**

— Хаця я і лічу сябе атэістам, але думаю, што ў кожнага атэіста ёсць свой Бог. Мой Бог — гэта Бог роўнасці. Усе людзі нарадзіліся аднолькавымі, але чамусьці адзін лепш маецца, а другі — горш. І вось гэтая сацыяльная несправядлівасць мучыць.

**— У вас амаль што камуністычныя перакананні...**

— Не жартуйце. Камуністычная ідэалогія — гэта тэзісы, маніфесты. Хаця «Камуністычны маніфест» — гэта надзвычайны дакумент. Калі б камуністы, бальшавікі, КПСС думалі пра сацыяльную справядлівасць — карупцыі не было б. На словах было адно, на справе — іншае.

**— Ну, з камунізмам у нас, здаецца, ужо ўсё зразумела. З дэмакратыяй вось ёсць праблемы... На жаль, айчынныя дэмакраты любяць карыстацца «бальшавіцкімі метадамі». Як вам гэта падабаецца?**

— Не падабаецца зусім, хаця яно зразумела — такая спадчына.

**— Ці зменіць нешта гэтая паездка ў падыходзе да журналісцкай працы на «Свабодзе?»**

— Так. Візіт дамоў даў мне шмат матэрыялу для арыентацыі. У выніку гэтага мае ранейшыя арыенціры змяняюцца, нярэдка кардынальна мяняюцца погляды на некаторыя з'явы. Жыццё аказалася такім непрадказальным. Я глядзеў Беларускае тэлебачанне, слухаў радыё і пераконваўся, што радыё «Свабода» таксама ёсць што сказаць. Але цяпер нам будзе больш складана працаваць. Калі раней мы маглі нейкі момант жыцця закрануць і мусіраваць яго да дзірак, то цяпер павінна быць больш разнастайная інфармацыя з глыбокім і прафесіянальным аналізам.

**— Я ведаю, што амерыканскія журналісты вельмі любяць у сваіх матэрыялах прагназіраваць сітуацыі, нават канструяваць іх. Спрагназіруйце, спадар Адам, наш недалёкі беларускі варыянт развіцця падзей.**

— Вы мяне правакуеце. Бо беларускі варыянт увогуле малапрадказальны па самых розных прычынах. Можна меркаваць, напрыклад, што канфлікт магчымы паміж сацыял-дэмакратамі і тымі партыямі, якія абараняюць інтарэсы сярэдняга класа. Я наўмысна не кажу тут пра канфлікт сацыял-дэмакратаў з БНФ, які, мне здаецца, выспявае і можа мець негатыўныя вынікі. Але думаю, што пры жаданні сацыял-дэмакраты змогуць знайсці кампраміс з усімі. На думку прафсаюзаў, нацыянал-дэмакратаў, хрысціянаў, сялянскіх партый, сацыял-дэмакраты — стары апарат. Але наколькі яны маюць рацыю ў гэтым?

**— Як вы ставіцеся да таго факта, што, нягледзячы на вялікія перамены ў нашай краіне, на развіццё працэсаў дэмакратызацыі, многія грамадзяне хацелі б эмігрыраваць з Беларусі на Захад? Што вы можаце сказаць ім?**

— Па-першае, абсалютна небяспечна раздаваць рэцэпты. Калі мне нехта скажа: гэты чалавек сябе не знойдзе ў эміграцыі, я не перакананы, што гэта так і ёсць. Я, напрыклад, выехаў зусім у іншы час. Колькі разоў за гэтыя шэсць гадоў перабудовы я лавіў сябе на думцы, што ўсё-такі ў нас там вельмі цікава. Цяжка, але цікава. Я нават пашкадаваў, што галоўная падзея прайшла міма. Канешне, я разумею, што збоку, з-за акіяна, глядзець на ўсе падзеі вельмі проста. Але ўсё-такі, па вялікаму рахунку, калі б перада мной стаяла пытанне пра эміграцыю цяпер, то выбар быў бы адназначны — у Беларусі. Я растлумачу чаму. Усё-такі ёсць магчымасць таго, што будзе вольны рынак, гэта не таму, што так хочуць ліберальныя сілы, або амерыканскі прэзідэнт, або капіталісты на Захадзе, якія прагнуць упіхнуць свае капіталы ў былую савецкую эканоміку. І такую магчымасць, шанц я не пакінуў бы нерэалізаваным. Можа я і вялікі аптыміст, але думаю, што за 10—15 гадоў у нас будуць такія ж самыя магчымасці, як у Англіі, Амерыцы. Мы не гаворым тут пра тэхнічную рэвалюцыю. Фактычна гэтыя роўныя магчымасці для кожнага сёння складаюць фундамент амерыканскай дэмакратыі. І я перакананы, што той рэгіён, які называўся да 1985 года «даспелым, разгорнутым сацыялізмам», будзе той самай зонай прадпрымальніцтва, у якой мільёны людзей знойдуць сябе. З'явяцца такія ж самыя незалежныя бізнесмены, як на Захадзе.

Як бы добра ні было ў чужой краіне, усё-такі жаданне чалавека і мара яго — быць на сваёй зямлі. Кажу гэта не таму, што маю настальгію. Думаю, што ў старэйшых людзей гэта больш асэнсавана і нават больш мудра сказана. Да мяне гэта толькі яшчэ пачынае прыходзіць. Цяпер я перакананы, што тут у нас усё можа быць! А раней жа я быў упэўнены, што тут не можа быць нічога.

*Павел ГЛОБА:*

## СТАЛІЦА БЕЛАРУСІ ПЕРАЕДЗЕ Ў ВІЦЕБСК

**4 верасня ў выставачным комплексе «На ростанях» была арганізавана прэс-канферэнцыя Паўла Глобы. Астролаг расказаў аб сваёй рабоце над картай Беларусі, што будзе надрукавана ў кастрычніку. У гэтым яму дапамагалі выпускнікі Мінскай астралагічнай школы, на аснове якой у хуткім часе Павел Глоба мае намер стварыць клуб. Мы прапануем чытачам «Звязды» пазнаёміцца з поглядамі вучонага на далейшы лёс беларускай зямлі.**

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — ПРАВЕРЦЕ

— Астралагічныя карты існуюць у Маскве, Адэсе, Кіеве. Складаючы іх, зыходзілі з таго, што ў аснове любога старажытнага горада ляжыць касмічны код. Кожны дом, населены пункт будаваўся па пэўнаму прынцыпу. Нашы продкі, славяне, шмат ад гэтага перанялі. Існуе метад, па якім можна рэканструяваць пачатковы прынцып забудовы горада. Адпраўны пункт для складання карты — гэта размяшчэнне горада, унікальныя асаблівасці яго ландшафту, яго забудовы на працягу стагоддзяў. Карта Мінска выклікана неабходнасцю скаардынаваць дзейнасць людзей у ім. З яе дапамогай любы чалавек, ведаючы свой гараскоп, зможа вызначыць, чым для яго з'яўляецца месца жыхарства: пазітыўнае яно ці, наадварот, адмоўнае.

У Мінску, наблізіўшыся да яго гістарычных каранёў, можна ўзнавіць нейкія даты, запоўніць прабелы. Тут патрэбен не толькі астралагічны аналіз, але і пацвярджэнне дакументаў, а таксама археалагічныя знаходкі. На мой погляд, крыху на ўсход і на паўднёвы ўсход ад горада хутка будзе адкрыта найстаражытнейшая цывілізацыя. Мяркуючы па ўсім, раней існавалі два гарады, на якіх і стаіць Мінск. Яны адносяцца да даскіфскага перыяду, недзе VIII, IX ст. да н. э. (ранні зараастрызм). Праз два гады ў Мінску чакаецца культурны пераварот. Усплывуць архіўныя матэрыялы, будуць новыя археалагічныя знаходкі. Менавіта тады ў Беларусі ўзнікне фундамент для рэнесансу XX стагоддзя, яна і стане цэнтрам адраджэння славянскай культуры. Гэтаму будзе садзейнічаць спалучэнне ў 1993, 1994 годзе Урана і Нептуна, мінулага і будучыні, Вадалея ў знаку Казярога. З апошнім звязана ўся тэрыторыя беларускага этнасу. Але чаму значныя змены адбудуцца ў Беларусі, а не ў Кіргізіі, Эстоніі, якія таксама пад Казярогам? Справа ў тым, што беларускі этнас — этнас арыйскі, славянскі. У далейшым яго прывязанасць да тэрыторыі будзе ўмоўнай, прынамсі ў эпоху Вадалея.

Новая забудова Мінска змяніла яго структуру. Раней ён быў пад знакам Дзевы, сёння — пад знакам Блізнят. Сістэма двайнога знака ўзнікла ў выніку разбурэння і перабудовы гістарычнага культурнага цэнтра. Горад згубіў першапачатковую стройнасць і цэласнасць. Дапушчальна, што Мінск будзе перафарміроўвацца некалькі разоў. Гэта тая міна запаволенага дзеяння, якая спрацуе ў самай непажаданай форме. І менавіта Мінск згубіць свой статус як сталіца. Адсюль і магчымасць перанясення адміністрацыйнага цэнтра ў Віцебск.

Трэба хутчэй вырашаць узнікшыя праблемы з кіраваннем, бо Гродзенская і Брэсцкая вобласці могуць аддзяліцца. Урад у Беларусі пакуль што застанецца той жа, хоць двойчы будзе весціся сур'ёзная размова аб яго замене. Гэта будзе зроблена толькі праз два гады. Але трэба мець на ўвазе, што Дом урада размешчаны ў неспрыяльным месцы. Ён знаходзіцца пад знакам Шаляў. І таму ўсе пачынанні, якія вядуцца адтуль, не адпавядаюць настроям народа рэспублікі, што знаходзіцца пад Казярогам. Праўда, плошча Незалежнасці — гэта плошча Дзевы і дэмакратычных рэформ.

**Ганна ЛАГУН.**

## СКАЖАМ РАЗАМ: «ШТО З «БелАЗам»?»

Чым больш часу адлічвае каляндар другога чэмпіяната рэспублікі па футболу, тым больш праясняецца турнірнае становішча каманд, якія, здаецца, займаюць свае месцы ў табліцы згодна з «купленымі білетамі» яшчэ ў мінулым годзе. Як і чакалася, адзіным лідэрам сталі мінскія дынамаўцы, якія на радасць сваім балельшчыкам перамаглі ў Брэсце аднаклубнікаў з лікам 3:0, хоць першы тайм і закончыўся безвынікова.

Чарговую нічыю на сваім полі зрабіў «КІМ». Праўда, такую гульню можна было б «спісаць» на дрэннае надвор'е, каб неназіралася стопрацэнтнай магчымасці забіць хоць бы адзін гол — пенальці. Але гаспадары пляцоўкі не змаглі рэалізаваць адзінаццаціметровы ўдар. Дарэчы, «віцебская» нічыя стала адзінай у туры. Астатнія гульні закончыліся перамогай каманд, якія выступалі ў родных сценах.

Літаральна ўваскрэсшым у параўнанні з першым чэмпіянатам РБ можна лічыць «Гомсельмаш». У чарговай сустрэчы гамяльчане змаглі адабраць два ачкі ў старадарожскага «Будаўніка». Лік — 1:0. Першую перамогу з розніцай у тры мячы атрымаў «Днепр». Дома ён не пакінуў ніякіх шанцаў «Шахцёру», забіўшы ў вароты салігорцаў чатыры мячы. Госці змаглі толькі аднойчы паслаць мяч у сетку варот сапернікаў. З буйным лікам атрымаў перамогу дома і «Трактар». Бабруйчане правялі тры мячы маладзечанскаму «Металургу». Ну, а найбольш мячоў было забіта на стадыёне «Дынама» — 9. Такі вынік гульні сталічнай «Беларусі» з аўтсайдэрам першынства — «БелАЗам».

Гаспадары правялі ў вароты гасцей 8 галоў, а жодзінцы — адзін, ды і той забілі за некалькі хвілін да фінальнага свістка. А як радаваліся! Быццам перамогу атрымалі. Але ж для гэтай каманды, лёс якой цяпер складваецца не на яе карысць, кожны забіты гол—свята. Шкада толькі, што святкавалі белазаўцы ў васьмі гульнях толькі двойчы, так і не набраўшы ніводнага ачка.

Астатнія матчы закончыліся так:

«Хімік» — «Ведрыч» — 2:1.

«Тарпеда» (Мн) — «Абутнік» — 1:0.

Наступны тур адбудзецца ў пятніцу, 11 верасня.

Лідэры першынства прымаюць у сябе дома «Трактар», а іх землякі — «Беларусь» — сустракаюцца ў гасцях з адным з аўтсайдэраў — лідскім «Абутнікам».

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 8-ГА ТУРА**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| «Дынама» (Мн) | 7 | 5 | 2 | 0 | 21- 5 | 12 |
| «Хімік» | 8 | 4 | 3 | 1 | 7- 6 | 11 |
| «Тарпеда» (Мг) | 8 | 3 | 5 | 0 | 8- 2 | 11 |
| «Беларусь» | 7 | 4 | 2 | 1 | 14- 4 | 10 |
| «Трактар» | 8 | 3 | 4 | 1 | 8- 2 | 10 |
| «Дынама» (Бр) | 7 | 4 | 1 | 2 | 5- 4 | 9 |
| «КІМ» | 5 | 3 | 2 | 0 | 9- 2 | 8 |
| «Гомсельмаш» | 7 | 3 | 2 | 2 | 7- 7 | 8 |
| «Днепр» | 8 | 3 | 2 | 3 | 10-11 | 8 |
| «Шахцёр» | 7 | 3 | 1 | 3 | 7-10 | 7 |
| «Лакаматыў» | 7 | 2 | 3 | 2 | 12-11 | 7 |
| «Металург» | 8 | 2 | 2 | 4 | 11-15 | 6 |
| «Тарпеда» (Мн) | 7 | 1 | 4 | 2 | 6- 7 | 6 |
| «Ведрыч» | 6 | 2 | 1 | 3 | 5- 6 | 5 |
| «Будаўнік» | 7 | 1 | 1 | 5 | 4- 9 | 3 |
| «Абутнік» | 7 | 0 | 1 | 6 | 2-11 | 1 |
| «БелАЗ» | 8 | 0 | 0 | 8 | 2-26 | 0 |

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

ХАКЕЙ-92

## СТАРТ НЕ ЎДАЎСЯ

Няўдала пачалі мінскія дынамаўцы свае выступленні ў розыгрышы Кубка Міжнацыянальнай хакейнай лігі ў заходнім дывізіёне. У суботу і нядзелю іх сапернікамі была каманда «Рыгас Старз».

Галоўнай дзеючай асобай у матчах быў ... эстонскі арбітр А. Грачоў — выдаленні сыпаліся адно за адным. Не было, здаецца, ніводнай мінуты ў першым матчы, каб на пляцоўцы гулялі каманды ў поўных саставах: то пяцёра супраць чатырох, а то і трох, то чатыры на чатыры, то чатыры на тры... У самым пачатку сустрэчы мінчанам удалося разыграць двух лішніх і павесці ў ліку: закінуў шайбу І. Матушкін. У другім жа перыядзе рыжанам спачатку ўдалося зраўняць лік, а затым нават выйсці наперад, але дакладны кідок Э. Занкаўца ўсё ж выратаваў мінчанам ачко.

Здавалася, што і ў другім матчы гульня пойдзе па такому ж сцэнарыю — зноў пайшлі выдаленні, найчасцей у беларускай каманды. І калі ў першым перыядзе дынамаўцы яшчэ вытрымалі націск, то ў другім тройка гаспадароў, якая засталася на пляцоўцы, не выстаяла супраць поўнага саставу «рыжскіх зорак», а праз некалькі хвілін за варотамі мінчан зноў запалілася чырвонае святло —0:2. Толькі пасля гэтага маладому нападаючаму мінчан С. Стасю ўдалося скараціць лік, але ненадоўга — яшчэ дзве шайбы ў вароты «Дынама» — 1:4.

Губляць тры ачкі на сваёй пляцоўцы — гэта занадта...

А маскоўскія каментатары ўпарта называюць турнір Міжнацыянальнай лігі чэмпіянатам Расіі...

**Выпуск «Розгаласа» падрыхтавалі: Уладзімір Здановіч, Аляксандр Коктыш, Анатоль Сланеўскі, Станіслаў Сулкоўскі.**

## Зварот беларускіх спартсменаў-алімпійцаў

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

праграмы развіцця фізічнай культуры і спорту ў Беларусі на 1986—1990 гг.», развальваецца: скарачаюцца дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, закрываюцца падлеткавыя клубы, школы здароўя, спартыўныя секцыі; перапрафіліруюцца спартыўныя будынкі, з прычыны адмовы большасці калгасаў і саўгасаў і іншых прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу выплачваць юрыдычныя членскія ўзносы згорнута работа 52 сельскіх раённых саветаў ДФСТ прафсаюзаў; у 600 буйных працоўных калектывах ліквідаваны пасады фізкультурных арганізатараў; звольнены больш за 300 трэнераў-выкладчыкаў. Фізкультурныя і спартыўныя работнікі вымушаны ісці ў працяглы адпачынак без утрымання. Калі не будзе фінансавай дапамогі спартыўным установам, то многія з іх, асабліва ў сістэме прафсаюзаў, ужо ў бліжэйшы час зробяцца банкрутамі.

На наш погляд, фізкультурна-аздараўленчая галіна неапраўдана пераводзіцца на камерцыйную аснову, а гэта ўжо сёння дрэнна адбіваецца на школьніках, студэнтах, інвалідах, пенсіянерах, мнагадзетных і малазабяспечаных сем'ях. Можна не весці гаворку аб нацыянальным адраджэнні, калі перакрываецца доступ людзям да культуры, адукацыі, фізкультуры.

Таму настойліва просім вас разгледзець і станоўча вырашыць наступныя пытанні:

— забяспечыць цэнтралізаванае гарантаванае фінансаванне для работы ўсіх спартыўных школ незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці;

— аказаць фінансавую дапамогу ў выглядзе датацыі на ўтрыманне і аснашчэнне спарткомплексаў, асабліва спартбаз і спортзбудаванняў алімпійскай падрыхтоўкі;

— ураўняць спортзбудаванні дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ са школьнымі і дашкольнымі ўстановамі і прымяняць да іх ільготныя тарыфы на энергазабеспячэнне, водазабеспячэнне і іншыя паслугі;

— вызваліць або прымяняць ільготнае падаткаабкладанне (на прыбытак, дабаўлены кошт, надзвычайны падатак, нерухомасць і інш.) асігнаванняў прадпрыемстваў, спонсараў і іншых арганізацый, якія накіроўваюцца на алімпійскую падрыхтоўку, на масавую аздараўленчую работу;

— дазволіць выкарыстанне на алімпійскую падрыхтоўку валютных сродкаў, якія замарожаны Знешэканомбанкам Рэспублікі Беларусь на рахунках спартыўных арганізацый;

— зацвердзіць чатырохгадовую — 1992—1996 г. г. — комплексную праграму масавага развіцця спорту і фізкультуры, прадугледзеўшы ў ёй даўгачасную дзейнасць фізкультурна-спартыўных, дзяржаўных, гаспадарчых і іншых арганізацый па захаванню і расшырэнню спартыўнай базы, выхаванню фізкультурных кадраў, развіццю дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ, спартыўных клубаў і іншых падраздзяленняў, па далучэнню дзяцей і ўсяго насельніцтва да рэгулярных заняткаў фізічнай культурай і спортам.

Выказаныя пытанні маглі б знайсці адлюстраванне ў Законе аб фізічнай культуры і спорце, праект якога знаходзіцца ў Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Спадзяёмся, што наша глыбокая заклапочанасць гэтымі праблемамі знойдзе водгук і ў вас.

**З глыбокай павагай шасцікратны алімпійскі чэмпіён В. ШЧЭРБА.**
**Двухкратны алімпійскі чэмпіён А. КУРЛОВІЧ**
**і іншыя, усяго 39 подпісаў.**

## Ламбард як люстэрка нашага тленнага жыцця

### РЫНАК, КАМІСІЁНКА? ЛАМБАРД!

Раз, два, тры, чатыры. Чатыры рублі. У кішэні дробязь. А да атрымання авансу 10 дзён. Сумнавата. Людзі, зразумела, у якіх можна пазычыць рублёў гэтак ...ццаць, знойдуцца. Толькі такое выйсце з фінансавага крызісу ўжо надакучыла (і самому, і тым, да каго лезеш у грашовыя засекі). Што ж, выйсце можна знайсці з любога становішча, асабліва калі выкарыстаць усё, што ёсць пад рукою. Халадзільнік, тэлевізар, магнітафон, залаты пярсцёнак, іншыя дробязі з золата. Шкада. Так, зусім забыўся. У шафе вісіць амаль што новае паліто на чатыры памеры большае, чым трэба. За паліто — і на рынак або ў камісіёнку. Стоп. На рынак ісці сорамна. У камісіёнку рэч несці нявыгадна, толькі адзін чорт ведае, калі яго прададуць і ці ўвогуле купяць.

Рытарычнае пытанне: «Што рабіць?» Знаёмыя падказваюць, што трэба ўзяць пазыку пад залог маёмасці ў ламбардзе. Паліто ў сумку — і туды.

### ЛАМБАРД ПА-МІНСКУ

Пакуль ехаў да ламбарда, што размясціўся на стадыёне «Дынама», каля 25 сектара, успамінаў, што ведаю пра яго. Памяць узнаўляла з замежнай літаратуры — з жыцця заходніх ламбардаў. Ламбард з камп'ютэрнымі сістэмамі, аўтаматычнымі лініямі, па якіх падаюць рэчы на склад. Ніякіх чэргаў, славутыя амерыканскія ўсмешкі на тварах супрацоўнікаў. Цьфу ты, не да часу ўспомніў, што робіцца ў дзяржаўных ламбардах Масквы. Чэргі на гадзіны, заклапочаныя людзі, карацей кажучы — марока.

Ламбарда амерыканскага, нават маскоўскага я не ўбачыў. Адзін толькі Бог ведае, да якога тыпу аднесці ламбард на стадыёне «Дынама». Памяшканне пяць метраў на тры або чатыры поўнасцю адмятае ўяўленне ад заходняй прыхільнасці да раскошы. У будынку — шаром пакаці: ні народу, ні рэчаў. Толькі скрашваюць усю гэту пустэчу дзве прыгожыя дзяўчыны, якія прымаюць рэчы. Праўда, не хапае дзяўчатам добрага настрою. Яно і зразумела: хіба не засумуеш, калі сядзіш без справы? Як растлумачыў мне дырэктар гэтага ламбарда, яны толькі-толькі пачынаюць раскручвацца. Яшчэ і месяца няма пасля адкрыцця. Нават працэнты за пазыку не да канца прапрацаваны.

На шчасце, у Мінску акрамя наваспечанага ламбарда на стадыёне, ёсць яшчэ і кампанія «Радзівіл». У адзін з такіх ламбардаў я і накіраваўся.

Каля магазіна «Алеся» разам з інтэлігентнай на выгляд жанчынай мы ў пошуках ламбарда праблукалі хвілін дзесяць. Нарэшце ў дварах заўважылі дзверы з надпісам «Пункт прыёму рэчаў». Інтуіцыя падказала, што менавіта гэта і ёсць ламбард. У памяшканні — ніякіх прылаўкаў, загародак, толькі сталы. Ля аднаго жанчына пералічвае грошы, за другім — піша, за трэцім — робіць на калькулятары нейкія падлікі. Два кліенты, якіх на маіх вачах разлічылі хвілін за дзесяць, задаволеныя, з грашамі рэціраваліся. Хто ведае, калі падыдуць наступныя: кліентамі пакуль што беларускія ламбарды не разбалаваны. Ці то не ведаюць пра іх існаванне, ці ёсць нейкія сумненні?

### ШТО ПРЫМАЮЦЬ ЛАМБАРДЫ

Прымаюць рэчы, якія карыстаюцца попытам. Натуральна, лепш здаваць новае: ацэначны кошт будзе большым. У ламбард прымаюць усё, што носіцца (пачынаючы з шапкі і канчаючы гадзіннікам). Дарэчы, калі ацэначны кошт рэчы меншы за 1.000 рублёў, у ламбард лепш не ісці — не возьмуць. Тэхнічна складаныя тавары прымаюць толькі новыя або калі тэрмін гарантыі яшчэ не мінуў. Што датычыцца каштоўных металаў, то і іх не ўсе ламбарды ў вас прымуць. Напрыклад, толькі два ламбарды кампаніі «Радзівіл» бяруць вырабы з золата. Гэта тыя, што размешчаны ў магазінах «Звязда» і «Падарункі». А вось халодную і агнястрэльную зброю, узнагароды ў ламбардзе не збудзеш. І яшчэ трэба сказаць, што ў ламбардзе не толькі выдаецца пазыка пад залог маёмасці, але маёмасць прымаецца і на захоўванне, а таксама скупляецца.

Працуюць тут людзі з вышэйшай адукацыяй і ў асноўным тыя, хто не адзін год займаецца гандлем. Так што вызначыць кошт рэчы ім не складана.

Ацэньваюць рэчы, зыходзячы з таго, што павінна быць гарантыя бясстратнай работы ламбарда: калі па нейкай прычыне, напрыклад, тэлевізар не выкупяць, то кампанія павінна будзе яго рэалізаваць па цане не ніжэйшай за ацэначную. Кліент у ламбардзе атрымлівае 85 працэнтаў ад ацэначнага кошту. З гэтых 85 працэнтаў забіраецца працэнт за карыстанне грашамі. За месяц набягае 7 працэнтаў, за два — 15, за 3—25, незалежна ад выдаваемай пазыкі. Скажам, пуховую куртку таваразнаўца ацаніў у 8.000 рублёў. Памер пазыкі ў гэтым выпадку складзе 6.800 рублёў за вылікам 476 рублёў (7 працэнтаў) за карыстанне пазыкай. Гэта значыць, што на рукі ўладальнік пухавіка атрымае чыстымі 6.324. Выгадна? Канешне, калі улічыць, што ў выніку ўдалай фінансавай аперацыі, або пасля зарплаты, нарэшце, куртку можна забраць (вярнуўшы 6.800 рублёў).

### ХТО НЯСЕ

У кліентуры ламбарда пераважае інтэлігенцыя, рабочых менш, а пенсіянеры тут і наогул рэдкія госці. Карацей кажучы, зараз ламбарды наведвае самы бедны клас — тыя, хто атрымлівае зарплату з дзяржбюджэту. Праўда, ідуць і бізнесмены, якім патрэбны наяўныя грошы.

— Чаму я іду ў ламбард? — перапытвае малады мужчына, а потым рэжа праўду-матку. — Таму што рабочы сёння атрымлівае больш васьмі кускоў, а я — інжынер (слоў было шмат — і сушыць мазгі, і інстытут, і ўрад...) — сяк-так набіраю тысячы тры. Што, будзеце мяне аспрэчваць або яшчэ задаваць пытанні?

### КАМЕРЦЫЙНАЯ ТАЙНА

Адносна пытанняў наконт аб'ёму рэалізацыі ламбарда ў месяц, сумы закладаў у дзень, грашовага абарачэння адказаў тут не знойдзеш. Канкурэнцыя! Рынак! Затое пасля такіх правакацыйных пытанняў атрымаеш прыемную ўсмешку: у ламбардаў палітыка гібкая. Называць шпіёнам і лаяцца з вамі не будуць. З-за розных дробязей настрой патэнцыяльным кліентам не псуюць.

### ЛАМБАРД ГАРАНТУЕ,

што з рэчамі, якія ў тэрмін не будуць выкуплены, прыйдзецца вам развітацца. На працягу трох дзён пасля заканчэння тэрміну закладу работнікі ламбарда абавязаны рэалізаваць тавар. Ёсць і адно «але»: калі рэч не рэалізавана (што можа здарыцца), «гора-кліент» мае магчымасць яе выкупіць на правах любога пакупніка, толькі па ацэначнаму кошту.

Дададзім, што рэчы з ламбардаў не прападаюць і не псуюцца (харчовых тавараў ламбард не прымае).

**ПАСТСКРЫПТУМ. Адзін з найбольш моцных козыраў ламбарда — яго параўнальна невысокія працэнты і гатоўнасць адразу ж за рэч прапанаваць наяўныя грошы. А што можа быць лепшым у наш час датацый і павышэння цэн? Людзі, каб звесці канцы з канцамі, гатовы не тое што закласці нейкую там рэч, але душу д'яблу прадаць. На жаль, тыя падачкі, якія мы атрымліваем ад дзяржавы ў выглядзе кампенсацый, зусім не гарантуюць матэрыяльнага дабрабыту. Наадварот, людзі губляюць веру ў справядлівасць таго, што адбываецца. Хто ведае, можа якраз ламбарды змогуць нейкім чынам унесці папраўкі ў бюджэты некаторых сваіх кліентаў. Не стала б толькі ўсё жыццё суцэльным ламбардам.**

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

